## СЯРГЕЙ ЗНАЁМЫ

«Адзін з першых даследчыкаў рабочай паэзіі»*, — пісаў пра журналіста і пісьменніка Сяргея Знаёмага Канстанцін Кабашнікаў. Сапраўды, С.Знаёмы быў адным з заснавальнікаў журналісцка-даследчай працы на Беларусі. Вось толькі час выпаў яму не журналісцкі: пачатак трыццатых — канец нэпманаўскай адлігі, наступ бэндаў і іншых актыўных памочнікаў рэжыму, час першых пісьменніцкіх арыштаў, першых высылак…



Знаёмы С.

Сяргей Змітравіч Клопаў (сапраўднае прозвішча Сяргея Знаёмага) нарадзіўся 14(27) чэрвеня 1909 г. у вёсцы Звонь, што на Віцебшчыне. Дзякуючы бацьку рана пачаў пісаць і чытаць. Падлеткам падаўся ў Нова-Барысаў, дзе працаваў рабочым на запалкавай фабрыцы. Паступіў на рабфак. Стаў членам КПСС (1928). З 1930 г. вучыўся ў БДУ. Слухаў лекцыі прафесараў М.Піятуховіча, П.Бузука, І.Замоціна[1], Я.Барычэўскага і іншых гэтак званых нацдэмаў. Адначасова С.Знаёмы працаваў у газеце «Рабочий», актыўна друкаваўся (спачатку як паэт). Тады ж з'яўляецца і псеўданім — *Знаёмы*, узяты ім ад бацькі-адыходніка: так, па словах А.Есакова[2], звалі сялян, якія адыходзілі ў горад, каб зарабіць на хлеб. Адначасова з вучобай у інстытуце С.Знаёмы пачынае актыўна займацца

* Кабашнікаў К. Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі. Мн., 1969.

літаратурнай працай. З'яўляецца шэраг ягоных артыкулаў, вершаў, нарысаў, апавяданняў. Выходзяць кнігі: «Відагоршчы»[†] і «Дом № 31»[‡], «За дамбаю»[§], «Лес гарыць»[**], «Ганчары»[††]. Пра гэты перыяд творчасці пісьменніка Кузьма Чорны пісаў: «Пра Сяргея Знаёмага можна сказаць <…>, што [ён] пісьменнік рабочых, але не якіх-небудзь індустрыяльных цэнтраў, а рабочых ускраін <…>, рабочых з ранейшых павятовых гарадоў. Блізкасць к сялянству — гэтая пячаць даволі выразна пакладзена на творчасць Сяргея Знаёмага. Глыбокае веданне быту, жыцця… рабочага асяроддзя — гэта рыса Сяргея Знаёмага як пісьменніка»[‡‡]. Але «намеры пісьменніка паказаць духоўнае станаўленне чалавека ў працэсе калектыўнай працы, пад уплывам працоўнага асяроддзя не атрымалі паўнакроўнага мастацкага ўвасаблення» (М.Мушынскі[3]). Разглядаючы творчую дзейнасць С.Знаёмага-даследчыка, К.Кабашнікаў[4] адзначаў: «С.Знаёмы правільна заўважыў <…> дынамізм рабочай паэзіі як адну з характэрных рыс рабочага фальклору»[§§]. У 1933 г. пасля заканчэння універсітэта, С.Знаёмы па прапанове прафесара М.Піятуховіча працягваў вучобу ў аспірантуры (па некаторых звестках — без адрыву ад настаўніцкай працы), напісаў даклад «Беларускія народныя песні і казкі аб прыгонніцтве». На кватэры акадэміка І.Замоціна (сябра прафесара М.Піятуховіча) С.Знаёмы меў магчымасць карыстацца асабістай бібліятэкай вучонага і займацца рускай літаратурай. Але далей вучыцца не стаў — захапіўся журналістыкай… У пачатку 1933 г. «ЛіМ» (28 студзеня) пісаў: «За апошнія гады <…> высунуліся кадры <…>, якія сур’ёзна адносяцца да свае прадукцыі, стала спецыялізуюцца ў гэтым жанры і дасягнулі некаторых поспехаў… Да такіх трэба аднесці ў першую чаргу Сяргея Знаёмага…”[***]

У 1935 г. з друку выходзіць апошняя кніжка С.Знаёмага «Біяграфія майго героя». Адразу пасля выхаду кнігі А.Кучар наконт творчасці С.Знаёмага выкажа думку, цалкам процілеглую таму, што пісаў К.Чорны. У артыкуле «Пра маладую літаратуру і маладых пісьменнікаў» А.Кучар пісаў: «Няўменне стварыць пластычна-яркі, скульптурна-адчувальны вобраз з'яўляецца характэрным для кнігі С.Знаёмага «Ганчары» і нават для апошняй ягонай аповесці «Біяграфія майго героя». Гэты прабел яшчэ павялічваецца ў

---

[†] Знаёмы С. Відагоршчы: Падарожныя нататкі ўдзельніка Чырвонаармейскага аграпаходу. Мн., 1930.
[‡] Знаёмы С. Дом № 31: Вытворча-бытавыя нарысы. Мн., 1930.
[§] Знаёмы С. За дамбаю: Кніга нарысаў. Мн., 1931.
[**] Знаёмы С. Лес гарыць: Кніга нарысаў. Мн., 1932.
[††] Знаёмы С. Ганчары. Мн., 1933.
[‡‡] Полымя рэвалюцыі. 1935. № 5; ЛіМ. 1935. 2 лют.
[§§] Кабашнікаў К. Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі. Мн., 1969.
[***] ЛіМ. 1933. 29 студз.

С.Знаёмага ад таго, што ён аб'ектам сваёй творчасці бярэ сярэдняга працаўніка на заводзе»[†††].

У тым жа годзе за напісанне "антисемитских" зборнікаў (і, магчыма, за "няўменне стварыць вобраз", а мабыць, наадварот, «за ўменне стварыць вобраз», але не «той») і аповесці "Паходы" (пасля абвінавачвання С.Знаёмага ў паклёпах на партыю М.Лыньковым надрукавана не будзе) яго часова (атрымаецца назаўсёды) выключаць з партыі. Што ж гэта за «антисемитские» зборнікі С.Знаёмага? Магчыма, нарыс аб удзеле Чырвонай Арміі ў раскулачванні сялян-серадняков у раёне Астрашыцкага Гарадка ў "Відагоршчах"[‡‡‡], або, як тады пісаў Т.Дакутовіч[5], "Нататкі ўдзельніка чырвонаармейскага аграпаходу". Ці — шэраг апавяданняў у "Доме № 31" аб камсамольска-камунарскім пачыне па выкананні прамфінплана на Мінскай цукеркавай фабрыцы "Камунарка", заводзе "Камунар" і г.д. А можа, гэта (у кнізе "За дамбаю") — аповед аб мяшчанскім падзенні і, па словах А.Кучара, нудным існаванні камсамолкі Каці Астаповіч і далейшым (зразумела, пры дапамозе камсамольскага калектыву) яе перараджэнні ў "фабрычную" ўдарніцу?

З 1936 г. С.Знаёмы працуе на радыё, складае радыёп'есы, асвойвае новы для сябе жанр — драматургію. Але доўга асвойваць не прыйшлося. 26 лістапада яго, як *«участника контрреволюционной фашистской организации, ставившей своей целью — активную борьбу с Советской властью за создание Беларусской Народной республики путём отторжения БССР от СССР и присоединения к Польше»*, арыштавалі.

З пратакола вобыску Клопава-Знаёмага Сяргея Дзмітрыевіча, пражывае на Нова-Маскоўскай вуліцы, дом 44, кв. 6:

*«Изъято: фото — 38 шт., писем — 443 шт., тетрадей записных — 29 штук, блокнотов — 20 шт., переписка на 115 листах, рукописи 42 шт. (Магчыма, сярод іх была драма «Каін». — **Л. М**.), в том числе печатных книг и сочинений Клопава (Знаёмага) — 18 шт., журналов и книг беларуских писателей — 110 штук плюс 100 журналов и газет…*

*Опись имущества:*

*Кровать железная, подушка, кушетка старая, стол деревянный обыкновенный, деревянная этажерка, шкаф деревянный, два деревянных стула, библиотека, состоящая из сочинений Ленина,*

[†††] Полымя рэвалюцыі. 1935. № 3.
[‡‡‡] «Жахлівая» гісторыя паходжання гэтага ўзгорыстага мястэчка расказваецца ў духу 30-х гадоў (пра юду-пана і рабоў-сялян) у кнізе «Міншчына ў легендах і паданнях». Мн., 1998.

*Плеханова*[6]*, Гончарова*[7]*, Тургенева*[8]*. Корзинка, чемодан, костюм черный б/у, рубашки, костюм "тройка" серый, старый пиджак, темно-синие брюки старые, одна толстовка бархатная старая, одно пальто осеннее серое старое, зимнее пальто старое, деревенского покроя, трое летних брюк — полотняных, брюки из серого холста, белья нижнего и верхнего — 14 штук, свитер шерстяной — один, галстуков — пять, ботинки — 1 пара, полуботинки — 1 пара, серебряный портсигар, облигации, мелкие предметы обихода — не учтены.*

*27/XI-36 г.*

*Изъято в НКВД: 40 рублей денег, паспорт, членский билет Союза писателей Белоруссии, диплом БГУ об окончании, сбер. книжка, две характеристики проф. Пиятуховича на Клопова…»*[§§§]

З «Масеевай кнігі» М.Сяднёва:

*«Кожны дзень прыносіў нечаканыя навіны… Скончыў самагубствам Чарвякоў*[9]*, скончыў самагубствам Галадзед*[10]*… Арыштаваны паэты Чарот, Александровіч, Хадыка, Дудар, Кляшторны, Маракоў, Звонак, пісьменнікі Галавач, Зарэцкі, Скрыган, Баранавых, Знаёмы, Мікуліч, Шашалевіч… Турма набівалася бітком. На допыты цягаюць дзень і ноч і б'юць…»*[****]

З пратаколаў допытаў С.Знаёмага (снеж. 1936):

«[Да, я говорил, что] *в условиях советской власти развитие белорусской национальной культуры невозможно. Белорусских писателей преследуют. Они находятся в бедственном положении… Но скоро придет наше время, сменится власть, и мы будем свободно писать…*

*Моряков мне неоднократно высказывался* (у 1936 г. — ***Л. М.***), *что в условиях советской власти талантливые белорусские писатели гибнут. В качестве примера он приводил Чарота и Кляшторного, которые спились только потому, что их унижали, как белорусских писателей…*

*Алехнович, после разгрома нацдэмовщины, ушел в подполье… Зарецкий, Граховский, Шашалевич, Вольный и Сташевский саботировали в творческой работе — занимались только переводами…*

---

[§§§] З асабовай справы Клопава (Знаёмага) Сяргея Дзмітрыевіча. Захоўваецца ў КДБ РБ.
[****] Сяднёў М. Масеева кніга. Мн., 1994.

*Огнецвет, работая на радио, вела там детские передачи и популяризировала [нацдэмов] Барановых и Коваля…*

*Дудар <…> вынял спрятанные фото высланных нацдэмов и, вспоминая о совместной с ними деятельности, высказывался об этом периоде, как о расцвете белорусской культуры…*

*Сташевский говорил, что белорусская литература в загоне…* [происходит] *упадок культуры… белорусские пьесы даже театры не стали ставить… печатаются только писатели-коммунисты…*

*Тишка Гартны* [твердил] *тоже самое…*

*С этими высказываниями я был согласен… Во всех разговорах высказывал свою солидарность».*[††††]

У згаданым раней вершы У.Клішэвіч пісаў:

*Жыццё турмы адведаў кожны:*
*Там быў Знаёмы і Дарожны…*

*«Акт 1 августа 1937 г. Минск.*

*Комиссия в составе сотрудников УГБ НКВД БССР Соколова*[11]*, Горбацевича и Абрамчика составила настоящий акт о том, что нижепоименованные, числящиеся по протоколу обыска от 3.XI.1936 г. изъятая переписка и литература у обвиняемого Клопова Сергея Дмитриевича уничтожена путем сожжения, переписка, как не имеющая никакого значения для дела, и литература, как подлежащая изъятию»*[‡‡‡‡].

1 жніўня 1937 г. былі спалены творы, магчыма, усіх арыштаваных пісьменнікаў. На вялікім вогнішчы гарэла некалькі тысяч рукапісаў.

Увосень таго ж года С.Знаёмы быў асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Як відаць з некаторых успамінаў сучаснікаў, што апынуліся ў Сібіры разам з ім, у канцлагеры ён паставіў сабе толькі адну мэту — выжыць. А каб выжыць, існавала толькі два варыянты паводзін: або дзейнічаць па прынцыпе — мэта апраўдвае сродкі, як гэта зрабілі некаторыя з тых, хто хоць і праз дзесяць, нават пятнаццаць гадоў, але вярнуўся дадому, або спрабаваць уцячы, вырвацца са смяротнага логава. Сяргей Знаёмы выбраў апошняе, і, як сведчыў праз шмат гадоў адзін з яго былых сяброў-канцлагернікаў, яму гэта ўдалося… Уцячы Сяргей Знаёмы змог, а вось што здарылася з ім далей, пра далейшы ягоны лёс мы не ведаем і дасюль.

[††††] З асабовая справы Клопава (Знаёмага) Сяргея Дзмітрыевіча.
[‡‡‡‡] З асабовай справы Клопава (Знаёмага) Сяргея Дзмітрыевіча.

[1] **ЗАМОЦІН Іван Іванавіч** [20.10(1.11).1873, в. Крывуліна Бежацкага пав. Цвярской губ., цяпер Бежацкі р-н Цвярской вобл., Расія — 25.5.1942, Горкі, цяпер Ніжні Ноўгарад, Расія], літаратуразнавец, педагог. Доктар філалагічных навук (1934). З сялянскай сям'і. У 1893 скончыў з залатым медалём Пскоўскую гімназію, у 1897 — Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут. Працаваў у гімназіях Пецярбурга і Варшавы. З 1904 прыват-дацэнт Варшаўскага, потым Пецярбургскага ун-таў. У 1908 прафесар Варшаўскага, у 1917—22 Данскога ун-таў. Яркі прадстаўнік культурна-гістарычнай школы ў літаратуразнаўстве; яшчэ да рэвалюцыі яго працы былі вельмі папулярныя. Першы раз арыштаваны ў 1921, другі ў 1934. З 1922 у Мінску, прафесар БДУ, з 1931 МВПІ. З 1925 адначасова працаваў у Інбелкульце, потым БелАН. Падрыхтаваў 1-е акадэмічнае выданне твораў М.Багдановіча. Акадэмік БелАН (1928), член-карэспандэнт АН СССР (1929), доктар філалагічных навук (1934). У 1931—33 дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва БелАН, прафесар МВПІ. Арыштаваны 4.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 19, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Комі АССР, дзе і загінуў. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 18.4.1956. На будынку Беларускага педагагічнага ун-та ў Мінску ўстаноўлена шыльда ў гонар З. Яго асабовая справа № 5890-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[2] **ЕСАКОЎ Алесь** [5(18).12.1911, в. Новікава Галіцкага пав. Кастрамской губ., Расія — 13.6.1985, Мінск], літаратурны крытык**.** З сям'і рабочага. З 1922 да 1925 выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Мінску. Пасля сканчэння сямігодкі (1928) працаваў на мінскай шчотачнай фабрыцы (да 1930) і ў тэатры рабочай моладзі. З 1932 да 1935 вучыўся ў Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва імя А.Луначарскага, служыў у Чырвонай арміі (да 1936), працаваў у газ. "ЛіМ". Як і Я.Бранштэйн, Л.Бэндэ, С.Вальфсон, М.Клімковіч, А.Кучар, пісаў разносныя артыкулы, абвяшчаў бел. пісьменнікаў ворагамі народа. Пайшоў на павышэнне. З 1938 дырэктар Рэспубліканскага тэатра юнага гледача, з 1940 начальнік аддзела тэатраў Упраўлення па справах мастацтва пры Савеце народных камісараў БССР. Падчас 2-й сусветнай вайны ў партызанах. У 1945—51 зноў супрацоўнік газ. "ЛіМ", літкансультант Саюза пісьменнікаў БССР (да 1950), вучоны сакратар Літаратурнага музея Я.Купалы (да 1974). Пахаваны на Паўночных могілках.

Літ.: *БП*, т. 2.

[3] **МУШЫНСКІ Міхась** [Міхаіл Іосіфавіч; н. 24.1.1931, в. Мокрае Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.], бел. літаратуразнавец, член Саюза пісьменнікаў Беларусі (1973), доктар філалагічных навук (1978), член-карэспандэнт Нацыянальнай АН Беларусі (1991), З сям'і служачага-

чыгуначніка. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся з маці на акупаванай тэрыторыі. У 1948 у школе ў роднай вёсцы здаў экстэрнам экзамены за 8 класаў і перайшоў у Быхаўскую СШ № 1, пасля сканчэння якой (1950) паступіў на філалагічны ф-т БДУ. З 1956 навуковы супрацоўнік, з 1964 старшы навуковы супрацоўнік, з 1979 загадчык сектара (цяпер аддзела) выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі. Даследуе гісторыю бел. крытыкі і літаратуразнаўства, творчасць М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, Я. Коласа, К. Чорнага, П.Галавача, С.Баранавых і інш. Аўтар першых на Беларусі асобнага выдання «Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці» (1982) і працы пра творчую гісторыю твораў «Ад задумы да здзяйснення. Творчая гісторыя «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі» (1965). Кіраўнік падрыхтоўкі шматтомных навуковых выданняў класікаў бел. літаратуры. Распрацоўвае новую канцэпцыю гісторыка-літаратурнага развіцця.

Кр.: *БП*, т. 4; *ЭГБ*, т. 5.

[4] **КАБАШНІКАЎ Канстанцін Паўлавіч** [н. 24.7.1927, Гомель], фалькларыст, педагог, доктар філалагічных навук (1971), прафесар (1980). З сям'і служачых. Скончыў сямігодку (1941). Падчас 2-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Горкаўскай вобл. У 1951 скончыў Гомельскі педагагічны інстытут, аспірантуру Маскоўскага ун-та (1954). Працаваў у АН БССР. З 1957 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, з 1976 загадчык сектара параўнальнага вывучэння народнай творчасці славян.

[5] Верагодна, гэта **ДАКУТОВІЧ Тодар (Фёдар) Уладзіміравіч** [студз. 1911, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту — дацэнт МВПІ. Арыштаваны 11.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 110. Асуджаны 3.1.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 22.12.1989. Асабовая справа Д. № 29314-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[6] **ПЛЯХАНАЎ Георгій Валянцінавіч** [29.11(11.12).1856, с. Гудалаўка Ліпецкага пав. Тамбоўскай губ., цяпер Ліпецкая вобл., Расія — 30.5.1918], філосаф, публіцыст, адзін з пачынальнікаў навуковага сацыялізму ў Расіі і заснавальнік расійскай сацыял-дэмакратыі, дзеяч расійскага і міжнароднага рабочага руху, тэарэтык і прапагандыст марксізму ў Расіі.

Падрабязней: *ЭГБ*, т. 5.

[7] **ГАНЧАРОЎ Іван Аляксандравіч** [6(18)1812, Сімбірск, цяпер Ульянаўск, Расія — 15 (27).9.1891, Санкт-Пецярбург], рускі пісьменнік, член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1860).

[8] **ТУРГЕНЕЎ Іван Сяргеевіч** [9.11.1818 — 3.9.1883], рускі пісьменнік, паэт, член-карэспандэнт Пецярбургскай Акадэміі навук (1860).

[9] **ЧАРВЯКОЎ Аляксандр Рыгоравіч** [8.3.1892, мяст. Дукора Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер вёска Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 16.6.1937, Мінск], паліт. дзеяч, публіцыст. У 1915 скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Мабілізаваны ў армію. У 1917 адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда 1917. У лют. — маі 1918 камісар Беларускага нацыянальнага камісарыята. 1.1.1919 як член Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада быў у ліку тых, хто падпісаў Маніфест пра абвяшчэнне БССР. У 1919 камісар асветы БССР, нам. наркама асветы Літоўска-Беларускай ССР. У 1920 начальнік аддзела РВС Зах. фронту, старшыня Мінскага губернскага ВРК, ВРК БССР. У 1920—24 старшыня ЦВК і СНК БССР, з 1922 адзін са старшыняў ЦВК СССР, з 1924 старшыня ЦВК БССР. Член ЦБ у 1920—24 і ЦК КП(б)Б з 1924, член ЦВК БССР у 1919 і 1920—37. Абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці. У час работы XVI з'езда КП(б)Б скончыў жыццё самагубствам. Рэабілітаваны ў 1957.

[10] **ГАЛАДЗЕД Мікалай Мацвеевіч** [9(21).5.1894, с. Стары Крывец Навазыбкаўскага пав. Чарнігаўскай губ., цяпер Навазыбкаўскі р-н Бранскай вобл., Расія — 21.6.1937, Мінск, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. Скончыў рабфак Горы-Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. У 1-ю сусветную вайну ў царскай арміі. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў Расіі. З 1918 у ВКП(б). У 1918—21 на адміністрацыйнай рабоце ў Навазыбкаўскім пав. У 1921—24 старшыня выканкама Горацкага Савета. З 12.12.1925 2-і сакратар ЦК КП(б)Б; з 7.5.1927 да 30.5.1937 старшыня СНК БССР.

Арыштаваны 14.6.1937 у Маскве як «адзін з кіраўнікоў антысавецкага аб'яднанага падполля ў Беларусі» і «за контррэвалюцыйную работу». Накіраваны ў Мінск, дзе падчас допыту ў будынку НКВД выкінуўся з акна 5-га паверха. Рэабілітаваны Генеральным пракурорам СССР 22.3.1956. Яго імем названы вуліца і праезд у Мінску. Асабовая справа Г. № 6571-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

28.6.1937 як «жонка ворага народа, [былога] старшыні Саўнаркама БССР» была арыштавана хатняя гаспадыня, маці дваіх дзяцей, Галадзед Вера Сцяпанаўна (н. 11.1.1900 у Лідзе; атрымала сярэднюю адукацыю). 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД БССР яна была асуджана да 8 гадоў ППК. Верагодна, як і шмат хто з жонак рэпрэсаваных партыйных, дзяржаўных, гаспадарчых дзеячаў Беларусі, яна была этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 12.5.1956. Яе асабовая справа № 6616-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

27.6.1937 у Мінску па месцы жыхарства за «самавольнае пакіданне аховы арыштаванага кіраўніка антысавецкага падполля М.Галадзеда, які выкінуўся з акна», быў арыштаваны афіцэр дзяржбяспекі, супрацоўнік НКВД, следчы, які вёў справу Г. і давёў яго да самазабойства, Рулёў Аляксей Іванавіч (н. ў 1897, рускі, член ВКП(б), меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю). 4 або 28 жн. 1938 пастановай асобай нарады пры НКВД ён быў вызвалены (а пазней рэабілітаваны) з унутранай турмы НКВД.

[11] **САКАЛОЎ**, у 1937 камендант Мінскай унутранай турмы НКВД[11]. З энкавэдыстамі *Абрамчыкам А. Ф.* і *Гарбацэвічам Л. В.* спаліў 1.8.1937 некалькі тысяч рукапісаў беларускіх літаратараў.